# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№4 (275)
красавік 2025




Інфармацыйны бюлетэнь • Супольнасць беларусаў свету "Бацькаўшчына"

**У НУМАРЫ:**

## "Будзьма" далучылася да Кодэкса журналісцкай этыкі

20 сакавіка ў Вільні 15 беларускіх незалежных медыяў і тры медыяарганізацыі падпісалі Пагадненне аб самарэгуляванні незалежнага медыясектару і Кодэкса этыкі беларускіх журналістаў. Тым самым яны стварылі Медыяасамблею, якая цягам 60 дзён павінна абраць Раду па медыяэтыцы.

Старонка 2



**НЕ ВАЙНЕ!**

**ВЫ МОЖАЦЕ ДАПАМАГЧЫ**




# ЯК ПАЎСТАВАЛА КАМПАНІЯ "БУДЗЬМА", ЯКАЯ ТРАПІЛА Ў КРЫТЫЧНУЮ СІТУАЦЫЮ

У межах гэтай ініцыятывы праходзілі фестывалі, канцэрты, ствараліся кліпы і шоў. Цяпер кампанія просіць дапамогі. Расказваем, што гэта за праект і ў чым яго важнасць для беларусаў.

1 красавіка кампанія "Будзьма беларусамі" размясціла зварот да чытачоў і прыхільнікаў з просьбай аб дапамозе. У ініцыятывы не стае сродкаў, каб надалей працягваць дзейнасць.

"Мы з вамі з 2008 года, а гэта амаль 17 гадоў руплівай працы нашай каманды для пашырэння беларушчыны, папулярызацыі нашай гісторыі, мовы і культуры. Разам з вамі пераасэнсоўваем ролю і месца беларусаў як нацыі ў мінулым і сённяшнім свеце.

І сёння нам як ніколі патрэбна вашая дапамога, каб і надалей мы маглі ствараць для вас унікальны беларускі кантэнт. Мы ведаем, што шмат хто з вас рос разам з „Будзьмай", пачынаў знаёміцца з беларушчынай праз нашу кампанію, глядзеў і чытаў нас, наведваў нашыя мерапрыемствы. Мы шчыра за гэта ўдзячныя, а зараз просім вашай падтрымкі", – напісалі аўтары звароту і папрасілі сваіх прыхільнікаў аб падтрымцы.

Для далейшай дзейнасці кампаніі неабходныя 16 000 еўра на месяц. Аўтары звароту ўпэўніваюць, што і самі шукаюць неабходныя сродкі, але ў той жа час просяць падтрымкі ў чытачоў і прыхільнікаў.

"У нас былі складаныя часы не адзін раз, але мы ўвесь час спраўляліся самі і не раз чулі ад нашых партнёраў, што мы моцныя, абазнаныя і абавязкова ўсё здолеем. Але цяперашні наш зварот – гэта сведчанне сапраўды крызіснай сітуацыі, якую мы не здольныя выравець самі, таму і просім усіх нашых сяброў, аматараў, паплечнікаў дапамагчы кампаніі выстаяць", – расказала каардынатарка кампаніі Алена Макоўская.

Зараз "Будзьма" – гэта партал з аўтарскімі матэрыяламі, калонкамі, навінамі пра культуру і афішай культурных імпрэзаў. У межах праекту выходзяць выпускі пра гісторыю на ютуб-канале "Трызуб і Пагоня", асветніцкія матэрыялы для дзяцей на ютуб-канале "Будзьма дзецям" ды іншае. А пачыналася гісторыя кампаніі з 2008 года.

### "Незапоўнены прагал"

"Будзьма беларусамі" пачыналася як шырокая культурна-асветная кампанія ў Беларусі ў 2008 годзе. Яе заснавала Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына". Да старту кампаніі тады падштурхнула гадавіна – 90-годдзе БНР, прыгадвае каардынатарка кампаніі Алена Макоўская.

"Напярэдадні юбілейнага году, увосень, мы – Згуртаванне беларусаў свету „Бацькаўшчына" – распачалі адмысловую культурна-асветную кампанію. Відавочна, Дзень волі і раней адзначаўся. Аднак большасць папярэдніх святкаванняў Дня Волі – гэта былі шэсці, да якіх вялікая колькасць нават неабыякавых беларусаў асцерагалася далучацца. Нам у той час здалося, што ў святкаванні не хапае культурніцкага ды асветніцкага складнікаў, каб людзі даведваліся болей пра значэнне і ролю БНР для незалежнасці сучаснай Беларусі. Нам было важна вывесці гэтае свята з нешырокага пратэснага асяроддзя", – расказала Макоўская.

Працяг на старонцы 4.

навіны ЗБС "Бацькаўшчына"

# "БУДЗЬМА" ДАЛУЧЫЛАСЯ ДА КОДЭКСА ЖУРНАЛІСЦКАЙ ЭТЫКІ

20 сакавіка ў Вільні 15 беларускіх незалежных медыяў і тры медыяарганізацыі падпісалі Пагадненне аб самарэгуляванні незалежнага медыясектару і Кодэкса этыкі беларускіх журналістаў. Тым самым яны стварылі Медыяасамблею, якая цягам 60 дзён павінна абраць Раду па медыяэтыцы.




Рэдакцыя культурна-асветнага медыяпартала "Будзьма беларусамі!" таксама далучылася да Пагаднення аб самарэгуляванні і Кодэкса этыкі і стала 22-м удзельнікам сістэмы самарэгулявання незалежных медыяў.

9 красавіка стартавала працэдура вылучэння кандыдатаў на выбары сябраў Рады па медыяэтыцы. Кандыдатаў у Раду могуць вылучаць як арганізацыі-удзельніцы Медыяасамблеі, так і любая асоба можа самавылучыцца.

Рада па медыяэтыцы будзе разглядаць скаргі парушэнні этычных стандартаў у недзяржаўных беларускіх медыя, паведамляе БАЖ.

Дакументы адкрытыя да далучэння. Кожная рэдакцыя медыя ці медыяарганізацыя, якая лічыць, што адпавядае вызначаным крытэрыям, можа даслаць заяўку на далучэнне ў БАЖ і стаць сябрам Медыяасамблеі і ўдзельнічаць у стварэнні Рады па медыяэтыцы.

План стварыць новы орган самарэгулявання і новы Кодэкс этыкі журналістаў падтрыманы на канферэнцыі "Беларускія медыі. Якасць кантэнту і пытанні самарэгулявання", якая прайшла 10 верасня 2024 года ў Вільні.

"Будзьма беларусамі!" пачыналася як шырокая культурна-асветная кампанія ў Беларусі ў 2008 годзе. Сёння мы вымушана працуем з замежжа, але працягваем пісаць пра Беларусь і беларусаў.

### Што робіць "Будзьма беларусамі!"?

Кожны дзень мы распавядаем пра важныя падзеі беларускага грамадскага і культурнага жыцця, публікуем аўтарскія калонкі, інтэрв'ю з беларускімі творцамі, адкрываем таямніцы нашай гісторыі, знаёмім з цікавосткамі пра беларускую мову, літаратуру, кіно, мастацтва.

"Будзьма беларусамі!" – гэта таксама ютуб-канал з унікальнымі відэапраектамі, дзе мы расказваем праўду пра невядомыя старонкі гісторыі ў праекце "Трызуб і Пагоня", знаёмім са шляхецкай культурай у праекце "Сармат", разбураем стэрэатыпы пра Беларусь і беларусаў у перадачы "Хрусь і папалам!" ды шмат чаго яшчэ.

А на дзіцячым ютуб-канале "Будзьма дзецям" – кантэнт для маленькіх беларусікаў і беларусачак – казкі, спектаклі, адукацыйныя перадачы. Усё па-беларуску з любоўю і клопатам!

Таксама мы стварылі тэлеграм-бот афішу "Будзьма разам!", каб вам было прасцей сачыць за беларускімі мерапрыемствамі ў сваім горадзе і па ўсім свеце.

Адным словам – мы ствараем і пашыраем беларускае дзеля нашай і вашай свабоды.

budzma.org

# ПАЛІТВЯЗЕНЬ МІКОЛА СТАТКЕВІЧ УЖО 800 ДЗЁН У РЭЖЫМЕ ІНКАМУНІКАДА

68-гадовы палітвязень Мікола Статкевіч утрымліваецца за кратамі без вестак, у рэжыме інкамунікада ўжо 800 дзён. Гэта стала стала вядома ад яго сваякоў.

Старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная Грамада" Мікола Статкевіч быў затрыманы 31 траўня 2020 года ў Менску. 14 снежня 2021 года суд пакараў яго 14 гадамі пазбаўлення волі ва ўмовах асаблівага рэжыму паводле ч. 1 арт. 293 КК ("Арганізацыя масавых беспарадкаў").

31 траўня 2022 года Вярхоўны суд пакінуў вырак без зменаў.

20 чэрвеня 2022-га быў этапаваны з гомельскага СІЗА-3 у глыбоцкую калонію № 13. 5 жніўня 2022 года Міколу змясцілі на паўгода ў адзіночную камеру.



У 2023 годзе да Міколы Статкевіча прымяняліся меры спагнання 9 разоў: вымовы, пазбаўленне права на атрыманне чарговай пасылкі або перадачы, пазбаўленне чарговага кароткатэрміновага спаткання, пазбаўленне чарговага працяглага спаткання, змяшчэнне ў штрафны ізалятар – 5 разоў.

З лютага 2023 года Міколу Статкевіча ўтрымліваюць без сувязі з роднымі і знешнім светам (рэжым інкамунікада).

Адміністрацыя глыбоцкай калоніі паставіла яго на ўлік як "схільнага да экстрэмізму".

Цягам зняволення яму не прымаюць рэчавых перадач, змяшчаюць у штрафны ізалятар. У 2024 годзе адміністрацыя турмы напісала Марыне Адамовіч, што Статкевіч адмаўляецца выконваць іх патрабаванні, за што да яго ўжываюцца спагнанні.

Жонка Статкевіча Марына Адамовіч казала, што апошні раз яна нешта атрымлівала ад яго 9 лютага 2023 года.

У рэжыме інкамунікада ў Беларусі ўтрымліваюць Сяргея Ціханоўскага, Максіма Знака, Анджэя Пачобута і іншых палітвязняў.

svaboda.org

кнігі

# АЛЕСЬ ПАШКЕВІЧ НАПІСАЎ ПРА ЖЫЦЦЁ І ТВОРЧАСЦЬ АЛЕСЯ ГАРУНА

У выдавецтве Рамана Цымберава выйшла кніга пісьменніка і літаратуразнаўцы Алеся Пашкевіча "Цясляр волі. Кніга пра Алеся Гаруна", прысвечаная жыццю і творчасці класіка нацыянальнай літаратуры, аднаму з першых беларускіх рэвалюцыянераў і адраджэнцаў XX стагоддзя Аляксандру Прушынскаму.

У грунтоўным навукова-папулярным выданні, якое багата праілюстравана фотаматэрыяламі, ўпершыню ўдакладняюцца многія факты жыцця пісьменніка – ад яго месца нараджэння і мясцін маленства да іркуцкай высылкі і гадоў станаўлення беларускай незалежнасці. Чытач зможа прайсці за аўтарам па дакументальна асветленых дарогах творцы і грамадскага дзеяча: мясцінамі яго




бацькоў, сцежкамі маленства, даўнімі радаводнымі скрыжаваннямі, ссыльнымі сібірскімі этапамі, а таксама спрычыніцца да спасціжэння крыніц творчасці ды вытокаў грамадска-палітычнай дзейнасці.

На кнігу ўжо адгукнуліся беларускія літаратары.

**Усевалад Сцебурака:**

"…Паступова трапляеш у суплёт знаёмага і незнаёмага, што адкрываецца ў спалучэнні як зусім новае. Тут і тапанімічныя росшукі, і генеалагічныя лініі: перапляценне лёсаў і месцаў – выпадковае ці не? Алесь Гарун і Ганна Цюндзявіцкая, Манюшка і Язэп Пушча… А далей і Янка Купала, і як "лёсіла" з Лёсікам. Удалыя ўключэнні цытатаў і маленькіх "жывых абразкоў". І тут жа грунтоўны акадэмічны аналіз вершаў, прозы.

Шмат новага і цікавага пра турмы і ссыльна-этапную ды высыльную справу Гаруна – грунтоўна пададзеная частка. Асабіста мне яна ўспрынялася як адна з самых моцных. І чытаецца асобна як нейкі хоць і сумны, але прыгодніцкі аповед. З экзатычнымі для нас рэаліямі".

**Аксана Спрынчан:**

"Найцікавейшая аповесць. Так пра Алеся Гаруна ніхто не пісаў. І не напіша. Незвычайна – нібыта навуковая манаграфія – і ў той самы час аповесць.

Паэт [напісаў] – пра паэта, празаік – аб празаіку, беларус – пра беларуса, навуковец – пра чалавека, чалавек – пра цесляра. Дзякуй шчыры!"

Навінка ёсць у наяўнасці ў "Акадэмкнізе", "Кніжнай шафе", на kniger.by і knihi.by

bellit.info

# НЯМЕЦКАЕ ВЫДАВЕЦТВА АПУБЛІКАВАЛА АЛЕКСІЕВІЧ ПА-БЕЛАРУСКУ

У Нямеччыне ў межах ініцыятывы "33 кнігі для іншай Беларусі", якую праводзяць Ірына Герасімовіч і Сільвія Засэ, выйшла супольная публікацыя выдавецтваў "Логвінаў" і "Suhrkamp" – кніга Святланы Алексіевіч "У вайны не жаночы твар" на беларускай мове.

"Дакументальны тэкст Святланы Алексіевіч, напісаны ў 1983 годзе і апублікаваны на расейскай мове ў часы Савецкага саюза ў 1985 годзе, апавядае пра жанчын, якія ваявалі ў Чырвонай Арміі падчас Другой сусветнай вайны, але так і не сталі часткай калектыўнай памяці. Яны дзеляцца з аўтаркай аповедамі пра вайну, пра смерць і забойствы, пра бруд і паскудства, пра тэрор і ваенныя злачынствы, пра раны, боль і голад. Ды расказваюць пра тое, як пра іх забыліся. Як і ў іншых сваіх кнігах, Святлана Алексіевіч дае прастору галасам тым, хто застаецца незаўважаным", – гаворыцца ў апісанні кнігі на сайце ініцыятывы.

Беларуская версія кнігі, якая выйшла ў выдавецтве "Логвінаў" у 2018 годзе, карысталася вялікай папулярнасцю, з аднаго боку, дзякуючы бліскучаму перакладу філосафа і пісьменніка Валянціна Акудовіча, а з другога – як важны знак пераадолення падзелу паміж беларускамоўнай і расейскамоўнай літаратурнымі сцэнамі Беларусі. І вось цяпер выходзіць перавыданне ў межах кампаніі "33 кнігі для іншай Беларусі" як вынік супрацоўніцтва выдавецтваў "Логвінаў" і "Suhrkamp". Нямецкамоўнае выданне кнігі выходзіла ў "Suhrkamp" у 2015 годзе.

Купіць кнігу "У вайны не жаночы твар" Святланы Алексіевіч можна праз сайт нямецкага выдавецтва www.suhrkamp.de.

bellit.info




# ВЫЙШЛА КНІГА ПРА МУЗЫЧНЫ ФАЛЬКЛОР СТАРАВЕРАЎ ПАЎНОЧНА-ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

У выдавецтве Skaryna Press выйшла кніга даследчыцы фальклору Беларусі Вольгі Барышнікавай – "І даўней так пелі. Музычны фальклор стavераў паўночна-заходняй Беларусі". Навіной пра выхад кнігі падзялілася аўтарка на сваёй старонцы ў фэйсбуку.

Кніга з'яўляецца вынікам мэтанакіраванага і шматгадовага даследавання музычнага фальклору стараувераў заходняга Падзвіння.

Яна складаецца з трох раздзелаў: "Валачобныя песні", "Крутухі, хараводы, пахадушкі", "Лірычныя песні".

• Кожны з раздзелаў мае грунтоўны этнамузыкалагічны каментар на трох мовах – беларускай, рускай і ангельскай. Расшыфроўкі экспедыцыйных гутарак і песенна-паэтычных тэкстаў песень выкананыя на мясцовай гаворцы стараувераў.

У зборніку змешчаны 45 нотных і тэкставых




транскрыпцый народных песень (публікуюцца ўпершыню), кожную з якіх можна паслухаць у аўтэнтычным выкананні.

Самы ранні аўдыязапіс датуецца 1963 годам, а самая старая спявачка, голас якой можна пачуць у выданні – 1890-х гадоў нараджэння.

Кніга праілюстравана фотаздымкамі, сабранымі альбо зробленымі падчас фальклорна-этнаграфічных экспедыцый.

• Фрагменты можна пагартаць на Google Books.

Як набыць кнігу?

1) Напісаць непасрэдна аўтарцы Вользе Барышнікавай:

– volha.baryshnikava@gmail.com
– Інстаграм
– Фэйсбук

2) На сайце выдавецтва Skaryna Press.

budzma.org

навіны ЗБС "Бацькаўшчына"

# ЯК ПАЎСТАВАЛА КАМПАНІЯ "БУДЗЬМА", ЯКАЯ ТРАПІЛА Ў КРЫТЫЧНУЮ СІТУАЦЫЮ



Алена Макоўская




Ніна Шыдлоўская

Працяг са старонкі 1.

Пасля ўдалага прыкладу прыйшла думка распачаць кампанію, якая б не прывязвалася да нейкіх датаў, але абуджала б "гонар за сваё". Працягвае каардынатарка кампаніі Ніна Шыдлоўская.

"На тыя часы было відавочна, што паміж двума палітычнымі полюсамі – апазіцыяй і ўладай – існуе вялікі прагал, і ён нічым не запоўнены. Трэба было даваць нейкую пазітыўную альтэрнатыву, і гэтай альтэрнатывай стала наша культура. Натуральна, мы б не справіліся адныя, і ўвесну 2008 года мы сабраліся разам з шэрагам партнёрскіх арганізацый, што працавалі ў галіне культуры і адукацыі", – кажа Ніна Шыдлоўская.

Пачаткова кампанія была скіраваная на папулярызацыю беларускай культуры і асветніцтва. Стваральнікі імкнуліся паказаць, што беларускія культурныя прадукты – сучасныя і якасныя. Цэнтральная ідэя – аб'яднаць беларусаў праз павагу да сябе, сваёй культуры, мовы, гісторыі й усведамлення сваёй адметнасці.

## Канцэрты, выставы і шоў па ўсёй Беларусі

Ад пачатку працы кампаніі ў межах праекту ладзілі выставы, канцэрты, сустрэчы зь дзеячамі культуры ў самых аддаленых раёнах Беларусі, каб паказаць незаангажаванай аўдыторыі, якім можа быць беларускі культурны прадукт. Адзін з удзельнікаў гэтых сустрэч, пісьменнік, журналіст, бард Зміцер Бартосік згадвае, што выступаць даводзілася ў школах, дзіцячых летніках.

"Адна рэч, калі ты прыязджаеш да людзей, якія цябе ведаюць, ведаеш, чаго чакае ад цябе публіка. Іншая рэч, калі працуеш з дзецьмі, каб паказаць кавалак беларускай культуры, бо для іх беларуская культура – гэта ўрокі, дзе не самы добры падбор літаратуры з вечным пакутлівым мужыком-беларусам. А тут ты даеш нешта такое, чаго яны не чулі раней. Паказваеш, што беларуская культура – гэта не мужык з каўтуном у галаве", – разважае Зміцер Бартосік.

На гэтых сустрэчах людзі вельмі добра ўспрымалі выступы, прыгадвае Бартосік. Асабліва гэта чапляла настаўнікаў, яны даведваліся, як шмат рознага існуе ў беларушчыне.

"Настаўнікі былі ў захапленні. Я рабіў міні-лекцыі з песнямі. Аўтарская песня пачыналася з Андрэя Мельнікава, а вось узор патрыятычнай песні Сержука Сокалава-Воюша, вось узор гумарыстычнага рамансу Віктара Шалкевіча, вось мая песня – гэта гістарычная балада. Для іх гэта была абсалютна незнаёмая галіна, пра якую яны нічога не ведалі. Для іх беларуская песня – гэта „радыёкропка", Саладуха і ансамбль „Верасы"", – прыгадвае суразмоўца.

Гэтая праца "ў полі" вывела пазнавальнасць кампаніі на новы ўзровень, кажа Алена Макоўская.

"Наша задача была даць сучасную альтэрнатыву, паказаць, што беларуская культура можа быць сучаснай і моднай, што нам ёсць чым ганарыцца. Не паверыце, але ў 2014 годзе пазнавальнасць „Будзьмы" ў сацыялагічных апытаннях была на ўзроўні 18% дзякуючы вось гэтай наўпроставай працы „ў полі". Да нас даходзіла інфармацыя, што мясцовыя аддзелы культуры закрывалі свае планы нашымі мерапрыемствамі, бо не маглі нічога падобнага арганізаваць самі", – звяртае ўвагу суразмоўца.

## Фестываль рэкламы і гісторыя Беларусі ў адным роліку

У 2010 годзе кампанія "Будзьма" заснавала фестываль беларускай рэкламы і камунікацыі.

У межах фэсту стваральнікі беларускамоўнай рэкламы змагаліся ў конкурсе на найлепшы рэкламны прадукт. У 2010 годзе першае месца заняў мультыплікатар Міхаіл Тумеля з тэлерэкламай квасу "Хатні", у 2015-м Павал Белавус з "вышымайкай". Ніна Шыдлоўская называе гэты фестываль "прарывам для кампаніі".

"Фестываль беларускамоўнай рэкламы і камунікацыі aDNaK! стаў безумоўным „прарывам" кампаніі і выхадам на зусім іншую аўдыторыю, на крэатыўны бізнэс. Калі вы памятаеце, у тыя часы бізнэс баяўся падтрымліваць грамадскія ініцыятывы, каб раптоўна не зачапіць палітыку. Фестываль сваёй крэатыўнасцю, магчымасцю эксперыментаваць і рэалізоўваць важныя сацыяльныя, культурныя праекты здолеў не толькі іх перараканаць, а здабыць вялікую колькасць аднадумцаў і партнёраў", – кажа Ніна Шыдлоўская.

У 2011 годзе кампанія выпусціла мультфільм "Будзьма беларусамі", які пераказвае гісторыю Беларусі ад пачатку да сучаснасці. Тэкст для яго напісаў Лявон Вольскі, а агучыў Аляксандр Памідораў. Гэта была адна з першых спробаў падаць беларускую гісторыю ў такім фармаце.

## Першы незалежны партал пра культуру

Кампанія ад старту мае свой партал, які апавядае пра творы, культурныя падзеі, гісторыю і нацыянальную адметнасць. Журналіст, які супрацоўнічаў з парталам, расказаў, што рэдакцыя імкнулася паказаць разнастайнасць культурнага поля.

"Было важна паказаць розныя падзеі, разнастайнасць. Няважна, ці гэта была імпрэза „Будзьмы", ці іншых арганізатараў, калі гэта было цікава – мы гэта асвятлялі. Звычайна гэта былі рэпартажы з фотаздымкамі. Тады ж выходзілі інтэрв'ю з дзеячамі культуры ды іншыя матэрыялы", – расказаў журналіст.

На партале і ў сацыяльных сетках кампаніі з'яўляліся асобныя праекты: "Чорна-белыя вершы" – выступы паэтаў у відэафармаце, "Як я стаў беларусам" – цыкл інтэрв'ю пра шлях да беларушчыны, "Краіна цмокаў" – камунікацыйная праграма ды іншыя.

З 2020 года каманда працуе ў анлайн-фармаце, зазначае Алена Макоўская.

"Гэта было заканамерным крокам у пачатку пандэміі, мы перайшлі на дыстанцыйную працу. І тым больш гэта стала адзіным выйсцем для нас у вымушанай эміграцыі. Але наша місія застаецца ранейшай, проста мы болей сталі працаваць над відэакантэнтам, над візуальным увасабленнем. Развенчваем міфы прапаганды і апавядаем пра сапраўдную гісторыю і культуру Беларусі. Нашы найбольш папулярныя відэапраекты – гэта „Трызуб і Пагоня", „Сармат", „Хрусь і папалам", а як мы вучым гатаваць беларускія стравы, галодным лепш гэтыя ролікі не глядзець", – даводзіць Ніна Шыдлоўская.

## "Мы ўсё павінны пачынаць спачатку"

Кіраўніцы "Будзьмы" звяртаюць увагу на актуальнасць кампаніі ў цяперашніх умовах, у часы "разбурэння ўсёй гуманітарнай сферы Беларусі".

"Сённяшнія рэаліі, у якіх апынулася наша краіна, робяць дзейнасць кампаніі „Будзьма" як ніколі актуальнай. Гэта і тыя антыбеларускія працэсы, якія адбываюцца ў самой краіне, і панаванне там „рускага свету", разбурэнне ўсёй гуманітарнай сферы краіны. Ёсць адчуванне, што мы ўсе павінны пачынаць спачатку, таму і наша місія, нашыя мэты і задачы – нязменныя. Гэта пабудова дэмакратычнага грамадства на грунце нашай гісторыі і культуры як падмурку вольнай і незалежнай Беларусі", – зважае Алена Макоўская.

Пакуль сайт кампаніі абнаўляецца ў звыклым фармаце. У лютым сёлета новая адміністрацыя ЗША прыпыніла на 90 дзён замежную дапамогу праз Агенцтва міжнароднага развіцця ЗША (USAID). Праз гэтую структуру атрымлівалі дапамогу многія беларускія незалежныя праекты ў сферах медыя, культуры, абароны правоў чалавека ды інш.

svaboda.org

кнігі

# АЛЕСЬ ПАШКЕВІЧ АДКРЫВАЕ НОВАЕ ІМЯ Ў ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

У выдавецтве Рамана Цымберава выйшла кніга Алеся Пашкевіча "І Я сказаў табе: "Жыві"! Дарогамі паэта Адама Свентаржэцкага", якая апавядае пра дагэтуль невядомае імя ў гісторыі беларускай літаратуры.

"І Я сказаў табе: "Жыві" – гэта нарыс і па сутнасці першая праца пра яркую і да нашых дзён невядомую асобу, літаратара, дзеяча вызваленча-нацыянальнага руху Адама Тамашавіча Свентаржэцкага.

Не ўсё з напісанага Адамам Свентаржэцкім, народжанага на Ігуменшчыне, дайшло да нас. Вершы, якім лёсіла захавацца, засталіся ў архіўных рукапісах; аніводнай публікацыі яго тэкстаў – ні ў газетах, ні ў асобных зборніках – раней не з'яўлялася.

Як дасюль не было згадак пра паэта і паўстанца ў якіх-кольвек энцыклапедыях ці літаратуразнаўчых публікацыях.

Алесь Пашкевіч – аўтар дылогіі "Пляц Волі" і дакументальна-мастацкіх выданняў пра Уладзіміра Дубоўку, Каруся Каганца, Вацлава Ластоўскага, Кастуся Езавітава, Алеся Гаруна і іншых знакамітых постацяў Беларусі.

Набыць кнігу можна ў мінскіх крамах "Акадэмкніга", "Кніжная шафа", у сталічным павільёне выдаўца (Гандлёвы цэнтр "Купалаўскі", ст. метро "Кастрычніцкая", павільёны 41 і 42) ці па спасылцы з перасылкай па ўсім свеце knihi.by.




bellit.info

адукацыя

# Агульны сход АБ-БА: РАШЭННІ НА КАРЫСЦЬ БЕЛАРУСКАЙ АДУКАЦЫІ

У пачатковай школе №4 імя Сібіракоў у Беластоку адбыўся Агульны сход членаў Аб'яднання ў карысць дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову "АБ-БА".

На сустрэчы былі разгледжаны і прынятыя ключавыя рашэнні, важныя для далейшага функцыянавання арганізацыі. Кажа старшыня арганізацыі Томаш Герасімюк:

– Паводле закону, таксама павінна адбывацца такая сустрэча кожны год. Галоўнае, каб прадставіць усім, што мы зрабілі за год, што атрымалася, а што не, якія планы на будучыню.

Кажа ўдзельніца сустрэчы, адна з заснавальніц арганізацыі Валянціна Швед:

– Мы ж гэта арганізавалі 30 гадоў таму, бо сабраліся толькі 6 асобаў з прадшколля. Трэба падтрымліваць навучанне беларускай мовы. Вельмі важна, што была Аліна Ваўранюк, якая стала папросту настаўніцай.




Сярод іншага, на Агульным сходзе былі абмеркаваны захады для стварэння магчымасцяў атрымання беларускамоўнай адукацыі ў Польшчы для дзяцей з Беларусі. На сёння ў пачатковай школе №4 у Беластоку беларускую мову вывучаюць 44 вучні – усе яны з'яўляюцца грамадзянамі Польшчы.

racyja.com

# "НЯМА ПОПЫТУ НА ДАШКОЛЬНУЮ ГРУПУ". ШТО БУДЗЕ З САДКОМ ПРЫ БЕЛАРУСКАМОЎНАЙ ГІМНАЗІІ Ў ВІЛЬНІ



Бацькі хвалююцца, што з верасня не будзе працаваць садок пры Скарынаўскай гімназіі ў Вільні.

Сітуацыя атрымалася складаная. З аднаго боку, ахвотных трапіць у Скарынаўскую гімназію ў Вільні (адзіную ў Літве, дзе навучанне вядзецца на беларускай мове) так шмат, што летась каля 50 дзяцей, якія хацелі вучыцца там, атрымалі адмовы. Сёлета з'явіліся добрыя навіны: у наступным навучальным годзе плануюцца два пятыя класы і з'явіцца 10–15 месцаў дадаткова.

З іншага – бацькі абмяркоўваюць, што, магчыма, не будзе садка пры гімназіі.

У навучальнай установе растлумачылі, што на наступны навучальны год няма попыту на дашкольную групу (гаворка ідзе пра дзяцей 4-5 гадоў), таму ў гімназіі будзе працаваць адна група – падрыхтоўкі да школы (там займаюцца дзеці ўзросту 5-6 гадоў).

nashaniva.com

навіны

# У Празе прайшоў круглы стол з беларускімі дэмакратычнымі сіламі і чэшскімі партнёрамі

11 красавіка 2025 года ў Празе, на базе ўніверсітэта CEVRO, адбыўся Круглы стол пад назвай "Будучыня Беларусі – еўрапейская: выбар на карысць каштоўнасцяў, а не страху". Мерапрыемства аб'яднала прадстаўнікоў дэмакратычных сілаў Беларусі, чэшскіх палітыкаў і прадстаўнікоў акадэмічнай супольнасці, дыпламатаў, экспертаў у сферы бяспекі і аналітыкаў.




Арганізатарамі дыскусіі выступілі Офіс дэмакратычных сілаў Беларусі ў Чэшскай Рэспубліцы на чале з дырэктаркай Крысцінай Шыянок і Prague Center for Transatlantic Relations (PCTR) пры падтрымцы Міністэрства замежных справаў Чэхіі.

Праграма круглага стала ўключала тры тэматычныя панэлі:

• Панэль па абароне, прысвечаную ролі дэмакратычнай Беларусі ў еўрапейскай сістэме бяспекі і падтрымцы Украіны ва ўмовах расійскай агрэсіі;

• Аналітычную, якая закранала пытанні еўрапейскай ідэнтычнасці беларускага грамадства і гістарычныя сувязі Беларусі з Еўропай;

• Палітычную, у межах якой абмяркоўваліся перспектывы інтэграцыі Беларусі ў еўрапейскую палітычную прастору, уключаючы супрацоўніцтва з Радай Еўропы і ініцыятыву па стварэнні Кансультатыўнай групы паміж Еўрапейскім Саюзам і беларускімі дэмакратычнымі сіламі.

Сярод ключавых спікераў на мерапрыемстве былі:

• Ян Мар'ян – намеснік міністра замежных справаў Чэхіі;

• Павел Фішэр – сенатар Парламента Чэшскай Рэспублікі, старшыня Камісіі Сената па замежных справах, абароне і бяспецы;

• Томаш Копэчны – упаўнаважаны ўрада Чэхіі па рэканструкцыі Украіны;

• Давід Стулік – спецпрадстаўнік Чэхіі па Усходнім партнёрстве;

• Вадзім Кабанчук – прадстаўнік па абароне і нацыянальнай бяспецы Аб'яднанага пераходнага кабінета Беларусі;

• Дзяніс Кучынскі – дарадца нацыянальнай лідаркі Беларусі Святланы Ціханоўскай па пытаннях дыпламатыі;

• Аляксандр Мілінкевіч – канцлер Вольнага Беларускага Універсітэта.

Мадэратарамі дыскусіі выступалі:

• Мацей Ручай – былы польскі дыпламат і старшы аналітык у Prague Center for Transatlantic Relations (PCTR), які спецыялізуецца на пытаннях еўрапейскай інтэграцыі і трансатлантычных адносінаў.

• Габрыэла Свароўска – чэшская эксперткa ў галіне знешняй палітыкі і бяспекі, якая мае значны досвед у аналізе міжнародных адносінаў і палітычных працэсаў у Цэнтральнай і Усходняй Еўропе.

• Павел Гаўлічэк – даследчык у Association for International Affairs (AMO), вядомы сваімі даследаваннямі ў галіне міжнароднай палітыкі і дэмакратычных трансфармацый у постсавецкіх краінах.

Дырэктарка Офіса беларускіх дэмакратычных сілаў у Чэшскай Рэспубліцы Крысціна Шыянок:

"Для нас, беларусаў, Еўропа – гэта адзіная альтэрнатыва так званаму "рускаму міру". Толькі ў Еўропе могуць захоўвацца нашая незалежнасць, нашая ідэнтычнасць і нашая культура".

tsikhanouskaya.org

# Былы кандыдат на прэзідэнцтва Алесь Міхалевіч атрымаў пашпарт Новай Беларусі

Падчас выступу ў Батумі 22 красавіка на тэму таго, наколькі бяспечна беларусам цяпер заставацца ў Грузіі, адвакат, былы кандыдат на прэзідэнцтва Алесь Міхалевіч прадэманстраваў аўдыторыі пашпарт Новай Беларусі і падкрэсліў, што гэта не ўзор, а ягоны асабісты асобнік.

За пашпарт пад нумарам 321 Алесь Міхалевіч заплаціў 97 еўра. Кажа, што ў дакуменце ёсць біяметрычныя звесткі і ён сапраўды зроблены паводле ўсіх стандартаў Еўразвязу.

У пашпарце стаіць код краіны BLS. Ці прызнаны ён афіцыйна – юрыст не ведае.

"Цяпер зрабіць пашпарт Новай Беларусі можна толькі ў Вільні, але, думаю, дастаткова хутка будзе цэнтр у Варшаве. Я вельмі ўдзячны Кабінету, што ў мяне ёсць гэты пашпарт. Я лічу, што гэта крута", – зазначае Міхалевіч.

Адвакат прызнае, што пакуль што пашпарт не мае практычнага прымянення.

Пры гэтым Міхалевіч лічыць, што праект пашпарта, а таксама такія інстытуцыі, як Каардынацыйная рада, Аб'яднаны пераходны кабінет, прэзідэнт-элект, – гэта тое, што можна моцна згуляць на руку беларусам, калі ў нашай краіне здарыцца чарговы нацыянальны ўздым.

"Шмат хто выступаў супраць КР, маўляў, яе трэба было абіраць у 2020 годзе, і калі мы не зрабілі тады, не трэба было і пачынаць. Але мы не можам пераскочыць некаторых рэчаў. У 2020 годзе ў нас не было на гэта рэсурсу і магчымасцяў. А цяпер ёсць. І калі будзе чарговы ўздым у Беларусі – а ён будзе, – у нас будуць адпрацаваныя інстытуцыі, у тым ліку з выдачай пашпартоў. У гэтым сэнсе мы сёння наперадзе ўсёй планеты, бо тое, што мы зрабілі з наяўнасцю прэзідэнта-электа, КР, якая мае хоць слабенькую, але легітымнасць, тое, што ў нас ёсць Кабінет і пашпарт, – гэта крута", – кажа Міхалевіч.

Юрыст называе набыццё пашпарта Новай Беларусі сваёй "найлепшай інвестыцыяй" і заклікае не абясцэньваць высілкаў беларусаў для стварэння гэтага дакументу.

Пашпарт Новай Беларусі мае стаць заменаю дзяржаўнага пашпарта для тых беларусаў, якія з увагі на палітычны пераслед не могуць з'ездзіць на радзіму, каб атрымаць дакумент. Галоўны выклік праекту – дамагчыся, каб пашпарты Новай Беларусі прызнавалі ў свеце.

Выраб дакументаў планаваўся ў Літве, аднак у студзені Генеральная пракуратура рэспублікі выслала Беларускаму пашпартнаму цэнтру ліст, які можна ўспрыняць як пагрозу крымінальнай адказнасцю за выраб і выдаванне пашпартоў, пакуль гэтыя дакументы не будуць прызнаныя ў вызначаным законам парадку.




Неўзабаве пасля гэтага Святлана Ціханоўская абвясціла пра перанос "нашага "чырвонага пашпарта" ў тыя краіны, дзе праблема з дакументамі ніяк не вырашаная". Таксама беларуская лідарка падчас прамовы ў Сейме Літвы з нагоды Дня Волі заклікала ўлады суседняй краіны "выдаваць міжнародную абарону і дазволы на жыхарства сумленным беларусам". Яна канстатавала: шмат якія беларусы не могуць вярнуцца дадому і застаюцца без дакументаў, а бацькі не могуць аформіць нованароджаных дзяцей.

26 студзеня быў абвешчаны пачатак прыёму заявак на атрыманне пашпарта Новай Беларусі, аднак пра пачатак выдачы дакументу пакуль афіцыйна не паведамлялася.

Марыя Міхалевіч, belsat.eu

навіны

# АНДРЭЙ СКУРКО АТРЫМАЎ УЗНАГАРОДУ ІМЯ ЛЬВА САПЕГІ

“Паспрабую крыху суцешыць вас тым, што ўсе мы шчаслівыя людзі, бо шчасце даследчыка – жыць у цікавы час”.




Гісторык, пісьменнік Андрэй Скурко атрымаў узнагароду імя Льва Сапегі. Прэмія прызначана за выбітны ўклад у фармаванне і развіццё грамадзянскай супольнасці ў Беларусі і пабудову незалежнай, дэмакратычнай Беларусі, скіраванай у Еўропу, таксама з улікам лепшых традыцый Рэчы Паспалітай.

Узнагароду ініцыяваў Калегіум Усходняй Еўропы ва Уроцлаве і Студыюм Усходняй Еўропы Варшаўскага ўніверсітэта, а спонсарам узнагароды з'яўляюцца пяць польскіх ВНУ (Варшаўскі ўніверсітэт, Ягелонскі ўніверсітэт, Уроцлаўскі ўніверсітэт, Уроцлаўскі ўніверсітэт імя Адама Міцкевіча і Беластоцкі ўніверсітэт). Пераможца будзе гасцяваць у гэтых універсітэтах, чытаць лекцыі на тэму Беларусі і праводзіць уласныя навуковыя даследаванні.

Узнагарода была запачаткавана ў 2006 годзе ў выніку паслявыбарчых пратэстаў. Тады ж у Польшчы была створаная стыпендыйная праграма імя Каліноўскага.

Дырэктар Студыюм Усходняй Еўропы Варшаўскага ўніверсітэта Ян Маліцкі нагадвае, што ўдалося пераканаць рэктараў пяці ўніверсітэтаў таксама падрыхтаваць прапанову для беларускіх даследчыкаў, якія маюць клопаты ў Беларусі, і даць ім магчымасць выкладаць на польскіх ВНУ.

Дырэктар Маліцкі падкрэслівае, што Андрэй Скурко атрымаў прэмію за свае заслугі ў незалежніцкім беларускім руху:

– Мы маем справу з вядомым публіцыстам, перакладчыкам, чалавекам, які таксама робіць вялікі ўклад у папулярызацыю польскай літаратуры ў Беларусі, таму што ён быў выдаўцом Чапскай, перакладчыкам і выдаўцом Мельхіёра Ваньковіча. Гэтага б хапіла, каб даць яму прэмію. Але тут у яго цэлы букет дасягненняў, бо гэта і журналісцкая дзейнасць (Наша Ніва, ARCHE), і пераклады, і выдавецкая дзейнасць, і ўрэшце два гады турмы.

Сёлета журы вырашыла ўручыць прэмію не прафесару і, уласна кажучы, даследчыку, а таму, хто мае менавіта такія заслугі, бо хоць гэтую прэмію ўручаюць універсітэты, то гэтая ўзнагарода не за навуковыя даследаванні, а за заслугі ў фармаванні беларускага грамадства ў духу свабоды і незалежнасці. Так што ў дадзеным выпадку Андрэй Скурко пасуе выключна добра.

Андрэй Скурко – беларускі журналіст, філолаг і перакладчык, пісьменнік. У 2021 годзе яго затрымалі і асудзілі на 2,5 года калоніі. За кратамі ён напісаў пяць тамоў вершаў для дзяцей, якія сталі бестселерамі. Цяпер ён жыве за межамі Беларусі, а за апошні год падрыхтаваў да друку дзённікі Марыі Чапскай, Мельхіёра Ваньковіча і Міхала Сапоцькі ў перакладзе на беларускую мову.

Падчас урачыстасці ўручэння Прэміі імя Льва Сапегі Андрэй Скурко выступіў з кароткай лекцыяй “Беларусь і Польшча ў свеце пасля канца свету”:

– Нядаўна мне выпала магчымасць рэдагаваць кнігу беларускага гісторыка, з якой я даведаўся пра крыніцы багацця канцлера Вялікага Княства Літоўскага Льва Сапегі, у гонар якога названа гэтая прэмія. Гэты магнат, уладальнік беларускіх лясоў, прадаваў на Захад тоны попелу. У тыя часы ён быў неабходны ў хімічнай прамысловасці. І ў гэтым ёсць такая сумная іронія, што папялішча – гэта ўсё, што з поспехам мог прапанаваць наш край за апошнія пяцьсот гадоў гісторыі. Беларус не можа сказаць, што ён жыве ў доме, які пабудавалі яго продкі ў чацвёртым-пятым калене, што яго сям'я ніколі не перасялялася супраць яго волі, што ён мае прыватную бібліятэку, збіраную стагоддзямі. Кожныя дзесяцігоддзі нашы сядзібы ператвараліся ў попел. Пра гэта пісалі ў сваіх успамінах Мельхіёр Ваньковіч, Марыя Чапская і іншыя. Мы вымушаныя вяртацца на спаленых палёў, вяртацца з турмаў, са ссылкі, усё адбудоўваць, бо наша краіна гэтага заслугоўвае, бо лепшай няма.

Андрэй Скурко гаварыў:

– Паспрабую крыху суцешыць вас тым, што ўсе мы шчаслівыя людзі, бо шчасце даследчыка – жыць у цікавы час.

ав, polskieradio.pl

# Алесь Міхалевіч: БЕЛАРУСАМ КРАІНУ ДЛЯ АДПАЧЫНКУ ТРЭБА ВЫБІРАЦЬ АСЦЯРОЖНА




Міжнародны адвакат Алесь Міхалевіч раіць беларусам, якія знаходзяцца ў вышуку ці маюць крымінальныя справы ў Беларусі, асцярожна выбіраць краіну для адпачынку.

– Калі людзі знаходзяцца ў групе рэальнай рызыкі, то перш за ўсё трэба выключыць тыя краіны, якія карыстаюцца так званай базай СНД, якую дэ-факта вядзе Міністэрства ўнутраных справаў Расейскай Федэрацыі. Гэта такія краіны як Арменія, Азербайджан і ўся Сярэдняя Азія. Безумоўна, я не згадваю пра саму Расейскую Федэрацыю, якая цалкам забароненая.

Паводле слоў Алеся Міхалевіча, беларусам лепей не наведваць нават такія папулярныя краіны як Турцыя і Егіпет:

– Гэтыя праблемы могуць быць для тых, у каго ёсць вялікая рызыка падачы ў Інтэрпол. Гэтая рызыка перш за ўсё у тых, калі вы ведаеце, напрыклад, што апрач чыста палітычных артыкулаў у вас ёсць вялікая верагоднасць, што ёсць нешта з эканамічных. Напрыклад, часта маскіруюць палітычныя артыкулы пад нясплату падаткаў. Менавіта такая сітуацыя была ў крымінальнай справе, звязанай з інфармацыйным агенцтвам БелаПАН.

Алесь Міхалевіч упэўнены, што беларусам, якіх шукаюць у Расеі і Беларусі, ні ў якім разе не трэба наведваць краіны Афрыкі і Азіі, апроч Сінгапура.

racyja.com

мастацтва

# У ВІЛЬНІ АДКРЫЛАСЯ ВЫСТАВА БЕЛАРУСКАГА МАСТАКА УЛАДЗІМІРА ГОЛУБА

"Нестарэючы час" – выстава беларускага мастака Уладзіміра Голуба пад такой назвай адкрылася ў Вільні 12 красавіка. Вернісаж прайшоў у Віленскім беларускім музеі імя Івана Луцкевіча, там было выстаўлена каля 30 прац творцы, якія адлюстроўваюць містычны сусвет, дзе пераплятаюцца рэалістычныя і фантастычныя элементы.




Як кажа мастак Уладзімір Голуб, для яго ўся беларуская культура ў нейкім сэнсе сюррэалістычная і містычная.

– Нічога дзіўнага – усе казкі страшныя. А хочацца неяк ад гэтага крыху адысці. Атрымліваецца, што хочацца шукаць светлае, чагосьці пазітыўнага. А з другога боку, у маёй маладосці фантастыкай з'яўлялася тое, што мы засвойвалі іншыя светы, удасканальваліся і г.д. А сёння прыйшоў час, калі ўсе глядзяць у адваротны бок – сярэднявечча, ведзьмакі, неандэртальцы можа яшчэ далей, такі дысананс атрымаўся ўнутраны.

Уладзімір Голуб – сучасны беларускі мастак, які эміграваў з Беларусі ў Літву шмат год таму і жыве цяпер у Вільні. Ён стварыў свой сімволіка-алегарычны свет, населены Духамі Прыроды, чэрпаючы натхненне ў выявах заходнеславянскай міфалогіі.

Карціны мастака можна набыць праз каталог у інтэрнэце.

racyja.com

# НА СУСВЕТНАЙ ВЫСТАВЕ EXPO Ў ЯПОНІІ СІМВАЛАМ ПАДЛЯШША СТАЛІ ПІКСЕЛЬНЫЯ ВАЛЁНКІ АД МАСТАЧКІ БЕЛАРУСКАГА ПАХОДЖАННЯ

З 13 па 19 красавіка Падляшша прадстаўляла Рэспубліку Польшча на сусветнай выставе EXPO – 2025 у японскіх гарадах Осака і Кансай. Канцэпцыя Expo 2025 заключаецца ў тым, каб у павільёнах былі інсталяваныя вітрыны з артэфактам – матэрыяльным сімвалам рэгіёну. Для гэтай мэты былі выбраныя піксельныя валёнкі, створаныя мастачкай Малгажатай Дмітрук.



Сусветная выстава Expo – гэта ўнікальная магчымасць для прасоўвання рэгіёну, яго культуры, турызму, дэманстрацыі эканамічнага патэнцыялу. Падляшскае ваяводства адкрывае цыкл рэгіянальных прэзентацый у польскім павільёне на выставе.

Для жыхароў Падляшскага ваяводства валёнкі з'яўляюцца сімвалам цяпла – у прамым і пераносным сэнсе. Гэта прадмет штодзённага ўжытку, але таксама і знак клопату, сямейнай блізкасці, павагі да прыроды. Паводле Малгажаты Дмітрук, яны таксама становяцца сімвалам мастацкага пошуку і творчай смеласці. Прадмет традыцыйнай матэрыяльнай культуры, пададзены ў мастакоўскай інтэрпрэтацыі, звязвае мінулае з будучыняй, вёску з горадам, Польшчу з Японіяй.

Артэфакт Малгажаты Дмітрук натхнёны лагатыпам Падляшша, створаным Лявонам Тарасэвічам у 2010 годзе. Піксельны зубр Тарасэвіча суправаджаецца лозунгам "багацце разнастайнасці" і заклікаНЫ падкрэсліць мультыкультуралізм рэгіёну.

Малгажата Дмітрук нарадзілася ў Бельску-Падляшскім. Вучылася на факультэце графікі ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, потым у Акадэміі мастацтваў у Варшаве. З 1995 па 2010 год працавала ў эксперыментальнай студыі ў Мінску, якой кіраваў Дзмітрый Малаткоў. Цяпер выкладае ў Акадэміі мастацтваў у Варшаве. Займаецца графікай, жывапісам, малюнкам, ілюстрацыяй, мастацкай кнігай, аўтарскім тэкстылем, аб'ектам, сцэнаграфіяй, інсталяцыяй.

reform.news

## Беларускі каляндар памятных дат на травень 2025 года

**1 траўня**
• 110 гадоў таму, у 1915-м, нарадзіўся Іван Любачка, гісторык, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША. Памёр у 1977-м.

**5 траўня**
• 125 гадоў таму, у 1900-м, нарадзіўся Адольф Клімовіч, выдавец. Памёр у 1970-м.
• 115 гадоў таму, у 1910-м, нарадзіўся Апанас Цыхун, пісьменнік. Памёр у 2005-м.

**6 траўня**
• 120 гадоў таму, у 1905-м, нарадзіўся Юрка Гаўрук, паэт. Памёр у 1979-м.

**9 траўня**
• 70 гадоў таму, у 1955-м, нарадзіўся Уладзімір Емяльянчык, гісторык, паэт. Памёр у 2003-м.

**13 траўня**
• 185 гадоў таму, у 1840-м, нарадзіўся Цітус Далеўскі, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг. Расстраляны ў 1864-м.
• 155 гадоў таму, у 1870-м, нарадзіўся Аляксандр Турчыновіч, гісторык.
• 130 гадоў таму, у 1895-м, нарадзіўся Ўладзіслаў Паўлюкоўскі, этнограф, мастак. Памёр у 1955-м.

**15 траўня**
• 180 гадоў таму, у 1845-м, нарадзіўся Іван Чэрскі, даследчык Сібіры. Памёр у 1892-м.

**17 траўня**
• 180 гадоў таму, у 1845-м, нарадзіўся Мікалай Нікіфароўскі, этнограф. Памёр у 1910-м.

**22 траўня**
• 125 гадоў таму, у 1900-м, нарадзіўся Мікалай Каспяровіч, мастацтвазнавец. Расстраляны ў 1937-м.

**24 траўня**
• 95 гадоў таму, у 1930-м, нарадзілася Галіна Русак (дзявоч. Родзька), мастачка, дзяячка эміграцыі ў ЗША. Памерла ў 2000-м.

**25 траўня**
• 120 гадоў таму, у 1905-м, нарадзіўся Сяргей Хмара (сапр. Сіняк), пісьменнік, выдавец, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і Канадзе. Памёр у 1992-м.

**27 траўня**
• 190 гадоў таму, у 1835-м, нарадзіўся Антон Трусаў, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг.
• 125 гадоў таму, у 1900-м, нарадзіўся Уладзімір Жылка, паэт. Памёр у 1933-м.

**29 траўня**
• 105 гадоў таму, у 1920-м, расстраляны Фабіян Шантыр, пісьменнік.
• 55 гадоў таму, у 1970-м, памёр Мікола Абрамчык, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і Францыі, прэзідэнт БНР (1947–1970).

**Беларусы ў свеце**
№ 4 (275), красавік 2025
Інфармацыйны бюлетэнь
Супольнасць беларусаў
свету "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Адказныя за нумар –
Н. Шыдлоўская,
А. Макоўская

Наклад 250 асобнікаў

zbsb.info e-mail: zbsb.minsk@gmail.com